Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Аддзелам Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады
(г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 16 (90) | 20 ліпеня 1930 г. | № 16 (90)

## ЗЬМЕСТ.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства і Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 132. Пра мабілізацыю аграномаў на ўборачную і асеньнюю пасеўную кампанію.

Для выкананьня пастановы СНК БССР за 3 ліпеня 1930 году, НК Земляробства і НК Працы БССР пастанаўляюць:

1. Мабілізаваць на ўборачную і асеньнюю пасеўную кампанію 50% аграномаў розных спэцыяльнасьцяй, якія працуюць у апаратах цэнтральных і акруговых установ і арганізацый.
2. Аграномы мабілізуюцца на тэрмін ад 2-х тыдняў да 1-го месяца.
3. Мабілізаваныя атрымліваюць звыш пэнсіі па 3 руб. сутачных, фактычны кошт кватэрнай платы, але ня звыш 2-х руб. у суткі, і аплату за праезд па чыгунцы альбо па воднаму шляху (фактычную каштоўнасьць білета).
4. Установы і арганізацыі камандыруюць мабілізаваных аграномаў за свой кошт.
5. Мабілізацыю праводзіць Пасеўбюро НКЗ БССР.

Народны Камісар Земляробства БССР *П. Рачыцкі.*

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

6 ліпеня 1930 г.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

### Паст. 133. Абежнік пра скасаваньне абежніку НКЮ БССР за 1 лістапада 1929 г. № 77 „Пра парадак прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці паўналетніх дзяцей за злоснае ўхіленьне ад выплаты прысуджаных з іх сродкаў на ўтрыманьне сваіх бацькоў“.

Абежнік НКЮ БССР за 1 лістапада 1929 г. № 77 „Пра парадак прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці паўналетніх дзяцей за злоснае ўхіленьне ад выплаты прысуджаных з іх сродкаў на ўтрыманьне сваіх бацькоў“ (Бюл. СНК БССР 1929 г., № 13) прапануе прыцягваць вінаўных да адказнасьці паводле арт. 6—232 Крымінальнага Кодэксу (па аналёгіі).

Арт. 232 Крымінальнага Кодэксу ясна гаворыць толькі аб адказнасьці за ўхіленьне ад утрыманьня дзяцей. Тая небясьпека, якую нясе з сабою ўхіленьне дзяцей ад утрыманьня сваіх непрацаздольных і немаемных бацькоў не такая вялікая, каб уводзіць крымінальную адказнасьць для рэгуляваньня гэтых грамадзянскіх праваадносін.

А таму, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР пастанаўляе скасаваць свой паказаны вышэй абежнік за 1 лістапада 1929 г. № 77.

Разам з гэтым тлумачыцца, што ў выпадку, калі непрацаздольныя і немаемныя бацькі пакідаюцца сваімі паўналетнімі дзяцьмі без дапамогі ў небясьпечным для жыцьця стане, дзеці павінны адказваць паводле арт. 229 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *П. Валасевіч.*

25 чэрвеня 1930 г.
г. Менск.

### Паст. 134. Абежнік пра ўжываньне канвэнцыі Саюзу ССР з Эстоніяй пра прававаую дапамогу ў грамадзянскіх справах.

*Усім акруговым судам, копія—акруговым пракурорам.*

Бяручы пад увагу тое, што заключаная паміж Саюзам ССР і Эстоніяй і набыўшая сілу 28 чэрвеня 1930 г. канвэнцыя аб прававаой дапамозе ў грамадзянскіх справах супадае па свайму зьместу з аналёгічным дагаворам паміж Саюзам ССР і Латвіяю за 2 чэрвеня 1927 г., Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе, пры ўжываньні канвэнцыі з Эстоніяй кіравацца правіламі, устаноўленымі ў абежніку Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР за 27 студзеня 1928 г. № 20, пра ўжываньне дагавору з Латвіяю.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і Старшыня Найвышэйшага Суда БССР *П. Валасевіч.*

30 чэрвеня 1930 г.
№ 30.

## Пастановы Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР.

### Паст. 135. Загад пра перадачу НКГ БССР Віцебскай махорачнай фабрыкі і ўсіх бравароў.

У дадатак да загаду ВСНГ БССР за 8/VI-1930 г. № 399 і для скасаваньня загаду ВСНГ БССР за 13/VI-1930 г. № 408, загадваю:

Паводле загаду ВСНГ і НКГ СССР за 26/VI-1930 г. № 1589/868а перадаць НК Гандлю:

1) у складзе Белсельхарчпрамаб'яднаньня г. Віцебску махорачную фабрыку і

2) Усе бравары ў складзе трэсту Белдзяржсьпірт, выключаючы Салтанаўскую тэхнахэмічную лака-фарбавую фабрыку, якую Дзяржсьпірт не пазьней за 15 ліпеня г. г. павінен перадаць Хэмаб'яднаньню.

Нам. Старшыні ВСНГ БССР *Стракоўскі.*

Ч. в. аб. Кіраўніка Спраў ВСНГ БССР *Дружалоўскі.*

6 ліпеня 1930 г.
№ 448.

### Паст. 136. Пра скарыстаньне сродкаў, асыгнаваных на прадпрыемствах на ахову працы.

Па вестках, якія паступаюць ад аб'яднаньняў, аб ходзе выкананьня мерапрыемстваў па ахове працы, высьвятляецца, што ў большасьці аб'яднаньняў за 1-ае паўгодзьдзе 1929-30 г. гэтыя сродкі амаль што зусім не скарыстаны. Па Папераб'яднаньню на фабрыцы „Гэрой Працы" прадугледжаны выдаткі на мерапрыемствы па ахове працы на 130 т. р. фактычна выдаткавана на 1/IV—19.600 р.; па ф-цы „Спартак" з маючыхся 17.000 р. па прамфінпляну выдаткавана 1047 р.; па Швэйаб'яднаньню з 29.000 р. выдаткавана 7.100 р. і г. д. Асабліва дрэнная справа з выкананьнем мерапрыемстваў па ахове працы на запалкавых фабрыках і па Мэталаб'яднаньню, нягледзячы на тое, што ў гэтых галінах прамысловасьці процант захварэнь-

няў рабочых зьяўляецца найвышэйшым. Лічачы такое становішча з выкананьнем мерапрыемстваў па ахове працы з боку адпаведных кіраўнікоў прадпрыемстваў злачынным, ВСНГ БССР прапануе ўсім кіраўнікам аб'яднаньняў безадкладна прыняць рашучыя захады да поўнага скарыстаньня ўсіх сродкаў, прадугледжаных на мерапрыемствы па ахове працы, не пазьней 1 кастрычніка бягучага году.

Сэктару Эканомікі Працы ў месячны тэрмін абсьледваць становішча выкананьня дагавораў па ахове працы па запалкавых прадпрыемствах і мэталапрамысловасьці, пасьля чаго паставіць даклад гэтых аб'яднаньняў на пасяджэньні Прэзыдыуму.

Нам. Старшыні ВСНГ БССР *Стракоўскі.*

Ч. в. аб. Кіраўніка Спраў ВСНГ БССР *Дубравенская.*

7 ліпеня 1930 г.
№ 450.

**Паст. 137. Пра выраб мадэляў вынаходніцтваў і тэхнічных удасканаленьняў на прадпрыемствах.**

Для забясьпечаньня практычнага ажыцьцяўленьня каштоўных для нашай прамысловасьці вынаходніцтваў і тэхнічных удасканаленьняў, сустракаючых на шляху правядзеньня перашкоды з прычыны адмаўленьня некаторых заводакіраўніцтваў ад заказаў на мадэлі і дэталі для розных вынаходніцтваў, загадваю:

Мадэлі вынаходніцтваў, ухваленыя Сэктарам Рацыяналізацыі ВСНГ БССР альбо бюро садзейнічаньня вынаходніцтву пры аб'яднаньнях, павінны выраблядца ў магчыма карацейшы тэрмін адпаведнымі рамонтнымі брыгадамі прадпрыемстваў па нарадах аб'яднаньняў альбо сэктароў рацыяналізацыі ВСНГ. У выпадку немагчымасьці па тэхнічных умовах прадпрыемстваў выканаць той або іншы заказ па вынаходніцтву, аб'яднаньні і прадпрыемствы павінны перадаваць заказы Белкустпрамсаюзу і прафшколам.

Што-ж тычыцца да вынаходніцтваў, маючых мэталаапрацоўваючы характар, якія немагчыма ажыцьцявіць, то такія выконваюцца рамонтнымі брыгадамі заводаў Мэталааб'яднаньня; апошнія павінны ўжыць усе патрэбныя захады да ўкамплектаваньня паказаных брыгад адпаведнай рабсілай.

Нам. Старшыні ВСНГ БССР *Стракоўскі.*

За Кіраўніка Спраў ВСНГ БССР *В. Змачынскі.*

8 ліпеня 1930 г.
№ 454.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР.

**Паст. 138. Пра зьмены ў інструкцыі НКУС за 23/IV-1929 г. № 49 „Пра гандаль паляўніцкай зброяй, агнязапасамі да яе і фэйервэркамі, аб набываньні, хаваньні і карыстаньні паляўніцкаю і спартыўнаю зброяй і агнязапасамі да яе і аб водпуску выбуховых вырабаў і дэнатуючых матарыялаў“.**

Для частковай зьмены інструкцыі НКУС за 23/IV-1929 г. № 49 „Пра гандаль паляўніцкаю зброяй, агнязапасамі да яе і фэйервэркамі

аб набываньні, хаваньні і карыстаньні паляўніцкаю і спартыўнаю зброяй і агнязапасамі да яе і аб водпуску выбуховых вырабаў і дэтануючых матарыялаў", (Бюл. СНК 1929 г., № 10, арт. 10)—Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляе:

1. Увагу 2 да арт. 6 скасаваць.

2. Увагу 2 да арт. 21 скасаваць.

3. Артыкулы 35-36, 67, 86-87, 94, 101 і 102 Інструкцыі запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Арт. 35. Асобы, якія атрымалі ва ўстаноўленым парадку дазвол на набыцьцё і хаваньне паляўніцкае зброі, але потым страцілі гэтае права, абавязаны ў трохдзённы тэрмін здаць сваю зброю ў міліцыю.

У выпадку няздачы, зброя адбіраецца органамі міліцыі. Уласьніку зброі даецца права на працягу месячнага тэрміну падшукаць пакупшчыка і прадаць сваю зброю. Пасьля зыходу паказанага тэрміну адабраная зброя прадаецца па распараджэньню міліцыі праз Саюз паляўнічых, а атрыманыя грошы, за выключэньнем 3% на арганізацыйныя выдаткі Саюзу паляўнічых, выдаюцца ўласьніку зброі".

„Арт. 36. Дазволы на набываньне, хаваньне і карыстаньне зброяй, якая знаходзіцца на ўзбраеньні Чырвонай Арміі, і патронамі да яе, а таксама зброяй, якая знаходзіцца або зьнята з узбраеньня чужаземных армій, і патронамі да яе выдаюцца органамі АДПУ ў парадку, устаноўленым АДПУ па ўзгадненьні з Рэўваенсаветам СССР.

Водпуск памянёнае зброі і патронаў да яе робіцца распараджэньнем Рэўваенсавету СССР. Перадача альбо продаж гэтае зброі і патронаў да яе бязумоўна забараняецца".

„Арт. 67. У складах і магазынах агнязапасаў да паляўніцкае зброі забараняецца хаваньне адначасова з агнязапасамі фэйервэркаў і наогул прадметаў, якія вырабляюцца з ударных і іншых выбуховых матарыялаў, а таксама нафты, газы, бэнзіну, запальваючых сярнічак, лякаў і іншых хутка запальваючыхся матарыялаў, а таксама курэньне.

У складах і магазынах, ня маючых электрычнага асьвятленьня, дазваляецца карыстаньне толькі пераноснымі электрычнымі ліхтарамі альбо спэцыяльнымі засьцерагальнымі лямпамі, прычым такія лямпы павінны запальвацца па-за складам або магазынам.

Электрычная праводка ў складах і магазынах павінна быць абсталявана ў дакладнай апаведнасьці з устаноўленымі для гэтае мэты тэхнічнымі патрабаваньнямі і выключаць магчымасьць кароткага замыканьня і запальваньня правадоў альбо засьцерагальных пробак.

Спосаб апалу павінен быць найбольш бясьпечным і адказваць ўсім патрабаваньням, устаноўленым дзяржаўным пажарным наглядам.

Перавеска і перасыпка пораху і іншыя работы з ім у памяшканьні, дзе ён хаваецца, забараняюцца".

„Арт. 86. Склады выбуховых вырабаў і дэтануючых матарыялаў, што ўжываюцца для падрыўных работ, могуць адчыняцца толькі дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі".

„Арт. 87. Адчыненьне складаў выбуховых вырабаў і дэтануючых матарыялаў дазваляецца па хадайніцвах зацікаўленых у тым установаў і прадпрыемстваў выключна з дазволу мясцовых органаў АДПУ, па ўзгадненьні з мясцовымі органамі РВС СССР, НКУС і НКП БССР".

„Арт. 94. Гандаль фэйервэркамі вытвараецца з захаваньнем наступных правіл:

а) гандаль фэйервэркамі, якія не зьмяшчаюць у сабе выбуховых матарыялаў і якія даюць гэтак званы „халодны агонь“ (пакаёвы фэйервэрк, які скадаецца з солі барыя, жалезных апілак і алюмінія) вытвараецца без атрыманьня якіх-небудзь дазволаў ва ўсялякага роду магазынах, за выключэньнем магазынаў, гандлюючых выбуховымі вырабамі і палкімі матарыяламі (паляўніцкіх, аружэйных, газавых, маскацельных, аптэкарскіх), пры ўмове хаваньня фэйервэрку ў мэталёвых скрынках і ў колькасьці ня звыш 16 кгр.;

б) гандаль фэйервэркамі, якія зьмяшчаюць у сабе выбуховыя матэрыі, можа вытварацца толькі па атрыманьні на гэта дазволу ў парадку, прадугледжаным арт. арт. 57—62 гэтай інструкцыі ў адносінах гандлю паляўніцкаю зброяю і агнязапасамі да яе, і з спэцыяльных фэйервэркавых (піратэхнічных) гуртовых складаў альбо розьнічных магазынаў з захаваньнем патрабаваньняў, прадугледжаных у арт. 63—66 і 69 гэтай-жа інструкцыі“.

„Арт. 101. Парушэньне правіл: а) аб водпуску і карыстаньні зброяй ваеннага ўзору і патронамі да яе (арт. 36 інструкцыі) і аб вырабе, набываньні, хаваньні і збыце выбуховых вырабаў і дэтануючых матарыялаў без адпаведнага дазволу (арт. арт. 86 і 87 інструкцыі), выклікае судовую адказнасьць паводле арт. 145 Крым. Код.; б) гандаль пісталетамі тыпу „Монтэ-Крыста“ саматужнага вырабу (увага 2 да арт. 70), адчыненьне гандлю пісталетамі тыпу „Монтэ-Крыста“, спартыўнай і паляўнцкаю зброяй і агнязапасамі да яе (арт. арт. 56, 57 інстр.), а таксама фэйервэркамі, якія маюць у сабе выбуховыя матарыялы (арт. 67, п. „б“ арт. 94), без адпаведнага дазволу—цягне адказнасьць паводле арт. 152 КК.

„Арт. 102. За выраб, збыт, куплю альбо хаваньне без належнага дазволу агнястрэльнай зброі неваеннага ўзору і агнястрэльных набояў да яе—вінаватыя прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасьці, паводле часткі 3-й п. „б“ арт. 13 пастановы ЦВК і СНК БССР за 17/V-1928 г. „Пра парадак выданьня акруговымі і раённымі вык. камітэтамі і гарсаветамі абавязковых пастаноў і пра накладаньне адм. пакараньняў за іх парушэньне“ (у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК БССР за 20/VII-1929 г.—З. З. БССР 1929 г,. № 26, паст. 154).

За несваечасовую рэгістрацыю зброі (арт. арт. 21 і 28 інструкцыі), за несваечасовую здачу яе (арт. 35 інстр.), продаж яе асобам, ня маючым дазволу на хаваньне апошняй (арт. 27 інструкцыі), за несваечасовае паведамленьне аб згубе (арт. 33 інстр.) вінаватыя прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасьці—штрафу да 100 руб. альбо да прымусовых работ да аднаго месяца, паводле п. „в“ арт. 13 паказанай вышэй пастановы ЦВК і СНК БССР за 17 мая 1928 г. (З. З. БССР № 17, арт. 160)“.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

22 чэрвеня 1930 г.
№ 51.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР.

### Паст. 139. Пра зьмену пастановы НК Гандлю БССР за 23/IX-1929 г. № 44 „Пра ўстанаўленьне норм натуральнага зьмяншэньня тавараў пры розьнічным гандлі.“

Для зьмены свае пастановы за 23/IX-1929 г. № 44 „Пра ўстанаўленьне норм натуральнага зьмяншэньня тавараў пры розьнічным гандлі“—НК Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Абзац другі да ўвагі да арт. 12 паказанай пастановы зьмяніць, склаўшы яго ў наступнай рэдакцыі:

„Тавар спажыўцу адпускаецца чыстай вагой. Уся папера, кулькі, вязка, у якіх узважвецца або адпускаецца тавар, адносіцца на рахунак гандлёвых выдаткаў крамы. Рагожы, каробкі і банкі запісваюцца пад адказнасьць загадчыка каперацыйнай крамы і адпускаюцца спажыўцу па сабекошту“.

2. Гэтая пастанова мае сілу с моманту апублікаваньня.

За Народнага Камісара Гандлю БССР *Зайцаў*.

Сакратар НКГ БССР *Пятухоўскі*.

24 чэрвеня 1930 г.
№ 22.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 140. Пра меры бясьпекі на сплаўных работах.

Народны Камісарыят Працы БССР у дадатак да абавязковай пастановы НКП СССР за 20 мая 1930 г. № 184 „Часовыя правілы аб мерах бясьпекі на сплаўных работах“ („Известия НКТ“ 1930 г. № 16) пастанаўляе:

1. Месцы вязкі плытоў павінны быць ачышчаны ад розных адкідаў, дроту, хмызьнякоў і травы. Для вязкі павінен быць човен з вяслом і багром.

2. Пры вязцы рабочым забараняецца трымаць начыньне (сякеру) за поясам, а апошні павінен знаходзіцца ў чоўні. Забіўка кныплеў у клейні павінна рабіцца спэцыяльным драўляным молатам („чакухай“), але не сякерай.

3. Месца вязкі павінна быць абведзена ўзмоцненым бонам з накладкай 2-х дошчак па 13 сант. шырынёю, каб мець магчымасьць рабочаму рабіць сартыроўку, перасоўваньне і скрапленьне бярвеньняў пры дапамозе бон. Рабочым забараняецца перасоўвацца па рацэ на адзіночных калодах.

4. Вязка плытоў павінна рабіцца паводле правіл і тэхнічных нормаў начсплаву данай ракі. Карыстаньне калючым дротам як для вязкі, таксама і для абхватак забараняецца.

5. Забараняецца на плытах карыстацца шастамі без жалезнага наканечніка.

6. Пры праходзе праз млынныя гаці з перападам ў іх вышынёю паўметра і больш забараняецца рабочым быць на плытох.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава*.

Старшы Інспэктар НКП БССР *Іоффе*.

29 чэрвеня 1930 г.
№ 38.

**Паст. 141. Абежнік пра парадак рэгістрацыі інвалідаў на біржах працы.**

З прычыны паступаючых запытаньняў аб парадку рэгістрацыі інвалідаў працы і ў зьвязку са зьменамі, адбыўшыміся на рынку працы, НК Працы БССР лічыць патрэбным унесьці некаторыя зьмены ў парадак рэгістрацыі інвалідаў, у сувязі з чым прапануе:

1. Рэгістраваць інвалідаў, працы II-й групы, а таксама інвалідаў, атрымоўваючых пэрсанальную пэнсію, толькі па тых прафэсіях і спэцыяльнасьцях, якія, па вызначэньню бірж працы, зьяўляюцца дэфіцытнымі на мясцовым рынку працы.

2. Прымаць на падлік біржы працы інвалідаў працы III-й групы ўсіх прафэсій і спэцыяльнасьцяй, аднак, пры ўмове, калі даная група да наступленьня інваліднасьці мела права быць на падліку біржы працы ў адпаведнасьці з існуючай сыстэмай рэгістрацыі беспрацоўных.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

29 чэрвеня 1930 г.
№ 40.

**Паст. 142. Пра падлік мэдыцынскага пэрсаналу.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Арганізаваць на тэрыторыі БССР сталы падлік мэдыцынскага пэрсаналу:

2. Падліку палягаюць наступныя асобы мэдыцынскага пэрсаналу, якія стала пражываюць на тэрыторыі БССР: а) мэдыцынскія дактары, зубныя дактары, фармацэўты і лябаранты, якія працуюць у дзяржаўных, грамадзкіх і іншых прадпрыемствах, установах і арганізацыях, і тыя, якія займаюцца прыватнай практыкай, а таксама і беспрацоўныя, незалежна ад таго, ці знаходзяцца яны на падліку біржы працы ці не; б) сярэдні мэдыцынскі пэрсанал (фэльчары, акушоркі і мэдыцынскія сёстры), як тыя, што працуюць у прадпрыемствах і ўстановах аховы здароўя, так і тыя, што займаюцца прыватнай практыкай і беспрацоўныя, што знаходзяцца на падліку біржы працы.

3. Асобы, паказаныя у арт. 2 гэтай пастановы, якія не прайшлі перапіс паводле пастановы Дзяржпляну і НК Працы за 29 сакавіка г. г., павінны зьявіцца ў адпаведную акруговую інспэкцыю працы не пазьней 1-га жніўня 1930 г. Асобы, якія ўхіляюцца ад падліку, а таксама і тыя, якія ня зьявяцца ў інспэкцыю працы да 1/VIII-1930 г., прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 102 Крымінальнага Кодэксу БССР.

4. Пры падліку мэдыцынскага пэрсаналу ўжываюцца арт. арт. 3, 4, 6, 8 і 18 пастановы НК Працы БССР за 29 студзеня 1930 г. № 3 (Бюл. СНК 1930 г. № 2).

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

14 ліпеня 1930 г.
№ 43.

**Паст. 143. Пра ўвядзеньне разьліковай кніжкі для рабочых, занятых на сэзонных работах.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Зацьвердзіць форму разьліковай кніжкі для рабочых, занятых на сэзонных работах, паводле далучаемага да гэтага ўзору.

Паказаная форма разьліковай кніжкі абавязкова для ўсіх сэзонных работ.

2. Прадпрыемствы, гаспадаркі павінны выдаваць разьліковыя кніжкі бясплатна ўсім працуючым па найму (апроч асоб, паказаных у арт. 3) не пазьней 7 дзён з дня канчатковага прыёму на работу. Рабочыя расьпісваюцца ў атрыманьні разьліковай кніжкі на асобным талёне, які хаваецца ў адміністрацыі.

3. Разьліковая кніжка не выдаецца: а) асобам адміністрацыйнага складу, якія маюць права найму і звальненьня, б) асобам, якія паступаюць на работу на тэрмін ня больш 12 дзён.

4. Калі работа па найму выконваецца арцельлю, то адміністрацыя выдае кожнаму члену арцелі паасобную разьліковую кніжку.

5. Разьліковая кніжка заўсёды хаваецца ў рабочага. У выпадку згубы разьліковай кніжкі, адміністрацыя безадкладна выдае рабочаму за яго кошт новую кніжку.

6. Пры выдачы разьліковай кніжкі адміністрацыя запаўняе ў ёй усе графы. Рабіць іншыя адзнакі забараняецца.

7. Разьліковыя апярацыі па заработнай плаце, якая выдаецца рабочым, робяцца на разьліковых кніжках адміністрацыяй.

8. Разьліковая кніжка зьяўляецца пісаным доказам найманьня рабочага і асноўным дакумэнтам для вырашэньня спрэчак, якія ўзьнікаюць пры ўжываньні працоўнага дагавору.

Калі запісы ў разьліковай кніжцы няпоўныя альбо неяскравыя, то цяжкасьць доваду ўскладаецца на адміністрацыю.

9. За нявыдачу альбо няправільнае запаўненьне разьліковай кніжкі адміністрацыя прыцягваецца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку.

10. Прадпрыемствы, установы і гаспадаркі не павінны патрабаваць ад рабочых, пры наяўнасьці ў іх разьліковай кніжкі, падачы спэцыяльных даведак аб месцы работы і аб заработнай плаце (апроч устаноўленых законам выпадкаў абавязковай падачы працоўных сьпіскаў і вестак у лістох непрацаздольнасьці) пры ўмове, калі ў разьліковай кніжцы запоўнены ўсе паказаныя весткі аб месцы работы і аб заработнай плаце. У адпаведнасьці з гэтым, разьліковая кніжка зьяўляецца дакумэнтам для вылічэньня належачай кватэрнай платы, разьмеру каперацыйнага паю, тэрміну ўнясеньня яго, пры растэрмінаваньні разьмеру крэдыту.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Інспэктар па Сэзонных Галінах Народнай Гаспадаркі НКП БССР *З. Іоффэ.*

18 ліпеня 1930 г.
№ 44.

Гэта кніжка заўсёды хаваецца ў рабочага.

**Дадатак № 1.**

Форма 1-й стар.

*Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!*

Зацьвярджаецца:

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

5 ліпеня 1930 г.
г. Менск.

## РАЗЬЛІКОВАЯ КНІЖКА.

Выдадзена рабочаму .....

Прозьвішча ..... імя .....

Імя па бацьку .....

Родам з рабочых, сялян, служачых і інш. .....

Вобласьць ..... акруга .....

Раён ..... вёска ..... сельскі савет .....

Мясцовы адрас .....

Час нараджэньня ..... прыняты на работу год „ ..... “

Вызначаны / нявызначаны па ..... мес.

Кніжка выдадзена ..... 193 ..... г.

Подпіс нанятага .....

**Форма 2-й стар.**

## УМОВЫ НАЙМУ.

Паводле каляктыўнага альбо працоўнага дагавору зробленага ..... 193 ..... г.

1. Зьмены ва ўмовах найму—зьмена стаўкі, разраду, перавод на іншую работу і да т. п. (адзначаецца падрабязна) .....

Подпіс наймальніка .....

Подпіс нанятага .....

Звальняецца:

Па прычыне .....

„ ..... “ ..... мес. ..... 193 ..... г.

Подпіс наймальніка .....

Подпіс нанятага .....

(М. П.)

(Форма наступнай 3-й старонкі па тэхнічных умовах зьмешчана на стар. 12 Бюл.)

Дадатак № 2.

# РАЗРАХУНКОВЫ ЛІСТ №

за час ........ з ........ па ........ 193 .... г.

| ПРЫЛІЧВАЕЦЦА: | Сума Руб. | Сума К. | ДАДЗЕНА І ЎТРЫМАНА | Сума Руб. | Сума К. |
|---|---|---|---|---|---|
| Засталося за канторай ад папярэдняй палучкі | | | Засталася за рабочым ад папярэдняй палучкі | | |
| **А. Аплата за работу.** | | | **А. Выдадзена.** | | |
| Б. Назва апярацыі ........ | | | дзень і мес. ........ | | |
| В. Зьдзельна ў кубамэтрах . . . . | | | №№ плацежнай квітанцыі ........ | | |
| 1. за ........ па ........ | | | №№ машын ........ | | |
| руб. ........ кап. ........ | | | №№ нараду ........ | | |
| | | | Б. Утрымана (за харчаваньне) | | |
| | | | 1. ........ | | |
| 2. Аплата падзённа | | | | | |
| за ........ дзён па р. ........ кап. ........ | | | | | |
| назва работы ........ | | | | | |
| | | | Выдача авансам ........ | | |
| 3. Аплата памесячна | | | Утрымана авансу ........ | | |
| за ........ па р. ........ к. ........ | | | УСЯГО: ........ | | |
| 4. Аплата за амартыз. інструм. і назва | | | Належыць да выдачы . . . . | | |
| інструмантаў ........ | | | Выдадзена на рукі гатоўкаю . . . . | | |
| Падлягае выплаціць за ........ | | | Застаецца за рабочым . . . . . | | |
| ........ за ........ | | | Застаецца за канторай . . . . . | | |
| № прыёмачнай квітанцыі за ........ | | | | | |
| ........ 193 .... г. | | | | | |

**Форма 3-й стар.**

# АСАБІСТЫ РАХУНАК

выдадзенай спэцвопраткі, інструмантаў і пасуды.

| Выдадзена | | | | Зьвернута, выключана | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дата | НАЗВА | Колькасьць | На які тэрмін | Дата | Падстава | Подпіс |
| | | | | | | |



Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друкарня БАН. Зак. № 3029. Галоўлітбел № 1572. Тыраж 5000 экз. 3/4 арк.